УДК 821.161.3-1 ББК
84(4Беи)-5 Д 21

**Дашына, Я. І.**
Графіці на сэрцы: вершы / Ярына Дашына. —
Мінск: Литература и Искусство, 2007. 128 с.: іл.
ISBN 978-985-6720-27-0

Вершы Ярыны Дашынай, змешчаныя ў гэтай кнізе, уражваюць арыгінальнасцю мастацка-паэтычнага адкрыцця з першых радкоў. Гэта гаворыць аб тым, што як сама паэтка, так і яе лірычная гераіня — неардынарныя асобы, якія пастаянна знаходзяцца ў экзістэнцыяльным пошуку. Імправізуючы на струнах душы, мастачка слова спрабуе раскрыць свой духоўны свет, суадносячы яго з вечнасцю і наводзячы на філасофскі роздум.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**
**ISBN 978-985-6720-27-0**

# Слова ў дарогу

Быць Паэтам у сучасным грамадстве — выпрабаванне для жыцця неадольнае. Па-набокаўску кажучы, — гэта як «запрашэнне на кару», іспыты на адзіноту сярод людзей... Самакатаванне. Там, дзе магчыма жыць толькі Словам, чалавека надоўга не хапае, паколькі такое жыццё патрабуе поўнай самааддачы і растраты ўсяго сэрца. А так як паэзія выбірае маладых і жарстлівых, то ад слова задыхаюцца хутка, на самым узлёце. Вопыт тут не дапаможа. Усё вырашаюць інтуіцыя і прадчуванне. Сумоўе з Небам — без перакладчыка, наўпрост...

І калі, скажам, я прыйшоў да чытача з вершамі толькі ў трыццаць, а асобнай кніжкай і ўвогуле ў 34 гады, то цяпер Гасподзь так позна на прылюдныя пакуты паэтаў не асуджае.

У Ярыны Дашынай — вечны ўзрост Максіма Багдановіча... Якраз той — грахоўна-дзявочы — калі рубам паўстае пытанне: спыніцца ці прадоўжыцца? Яе задыханыя вершы, як прахуканыя адталіны на марознай шыбе, праз якія аддалена яснее

знадворны холад зямнога свету. Вымкнуць адсюль туды, як нырнуць у сцюдзёную рачную палонку… жадаючы застацца там і баючыся не вярнуцца назад… Ці не таму і арытмічная абрывістасць яе твораў — бы зязюліна ку-каванне на кавадле сэрца…

На перападах высокага духоўнага ўздыму і глыбіннага псіхалагізму і паўстае сутнасная аснова паэзіі Ярыны Дашынай. Яна не для лёгкага чытання і не чыстай красы. Але вызнаўшы і засвоіўшы яе, як нераменны стан уласнай душы, у рэшце рэшт нават пераборлівы чытач становіцца снагадным і ўдзячлівым прыхільнікам яе неардынарнай творчасці.

Ярына Дашына — паэт на прыродзе свайго нараджэння. Не быць ім яна ўжо не можа, бо гэта — як жыць альбо памерці… І адракацца ад створанага яна не будзе, бо не толькі жыве вершамі, але і перажывае іх… Дзеля Паэзіі, якую перажыць немагчыма.

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

*Светлай памяці мамы*
*прысвячае аўтар сваю кнігу*

* * *

Пакіньце мяне ў спакоі,
і я абярнуся ракою,
глыбокай і неўміручай,
за небакрай бягучай...

Я ведаю, за небакраем
па-іншаму паміраюць,
шчасліва й звонкагалоса
ўліваючыся ў нябёсы...

Магчыма, за небакраем
ёсць брама раю?..

* * *

Мне патрэбны крылы,
каб лётаць з паверхаў высокіх.
Мне патрэбны крылы
вар’ятаў усіх адзінокіх.
Мне патрэбны крылы,
як іншым трэба адзенне,
каб схаваць галізну
і не ведаць зямлі прыцягненне,
прыцягненне жыцця
і шурпатага падваконня.
Мне патрэбны крылы —
калі пад нагамі
*б*
*я*
*з*
*д*
*о*
*н*
*н*
*е*

* * *

*Я* замкнёная на ключык
на чатыры абароты:
на чатыры промні Сонца,
на чатыры зоркі Ночы,
на чатыры колцы Пекла.
На чацвёртым — страх калючы,
трэці — бездань адзіноты,
а другі — палон бясконцы…
Ключыкі адно — бразгочуць:
«Небяспека! Небяспека!»
На апошні і на першы
я замкнёная на вершык.

* * *

У цемры прысмак гаркаты
і шакаладнай адзінотнасці...
Я ведаю: у безвыходнасці
ўсе выхады і ўсе хады
ў каханне, у вар'яцтва,
у бязвер'е слоў — багабаязнае.
Сярод усіх няшчасных шчаснаю
сябе раптоўна прызнаю.
Тут, на нейтральнай паласе,
дзе шчасце шчаснасцю ў палоне, —
атрутнасць цемры... ёсць бяссонне,
расшпіленае на усе радкі.

* * *

Балюча глядзець у вочы людзям,
якія не хочуць жыць —
у зрэнкавай муці зломы і звіхі пачуццяў
дарослсці ці маленства.
Ёсць нейкае падабенства з тым,
што я бачу часам
ў люстэрках, калі сам-насам
і болей няма нікога...
няБога...

# Калодзеж

Ён быў бяздонны і пусты,
абвіты павутой і пылам.
Яго адвечнай слепаты
на тысячы сляпых хапіла б.

Парослы цвіллю ды іржой —
там кожны гук здаваўся Г У К А М...
А я была яго душой,
калодзежным вярхоўным Духам.

Страх нараджаецца нутром,
углядваючыся раскоса
у пераверпуты ўверх дном
аскепак сонечных нябёсаў.

* * *

Усе пяшчотнасці пяшчотныя —
тысячы кінжалаў
я за пазуху схавала.
За рукаўчык, за каўнерык,
за парцьеры.
Усе умоўнасці умоўныя
з не маёю шчырасцю —
са шляхамі да абрывасцяў,
праўду рук з ілжою вуснаў —
вусную...
За рукаўчык, за каўнерык —
рык.

* * *

Сонечны прамень наўпрост
выспявае ў вяснушку.
Пацалуеш мяне ў нос —
Укушу цябе за вушка.
Укушу, каб ведаў — мой!
Каб загроб мяне ў двукоссе.
Падглядаю за табой
трэцім вокам пераносся.
Так адточваецца слых —
рэхам ракавін вушных.

## Ненармальная

Я не прыгожая, не сексуальная —
проста мачалка сентыментальная.
Не зразумелая, не перспектыўная —
бібліятэкарка дэпрэсіўная.
Не імянная і не народная…

Амёбападобная…

* * *

Восень здараецца непрыкметна
і штохвілінна. Жухлыя зграі
мёртвай лістоты — шлях безбілетны
ад небакраю да небакраю.
Дзіўна, чамусьці, недзе на грані шчасця,
не лёгкая небяспечнасць цела,
не крохкае ападанне,
а гравітацыя —
падаць у Вечнасць...

* * *

Мне знаёма (адкуль?),
на якой ты маўчыш мове,
і на якой усё маўчала раней,
да таго,
як ні слова,
ні гука,
ні... звыш
усіх прызнанняў тваіх — немата пра мяне.
У кутках тваіх вуснаў жыве,
нападхват цішыні,
невыказных пачуццяў хаос.
Я пішу неўпапад і жыву неўпапад
па-над гэтым лістом, дзе лінейкі наўскос.
Ўсё жыццё неўпапад. Гэтак крыўдна, хаця
у мяне ёсць вызнанне тваёй цішыні.
У трохмернай размеранасці жыцця
мерай масы, аб'ёму і даўжыні
вымяраюць каханне...

* * *

Там у перашкодаўстойлівым небыцці
стратэгічным пунктам апоры —
стане каханне.
Вусны ловяць малочна-бяззубае лапатанне сэрца,
якое, нібы слімак у сваім укрыцці.
Там у кожнае рэчы ёсць psyche — сваё імя, а ў кожнае psyche (душы)
свая заканамернасць
рвацца вонкі. Шматвонкавасць
(ці шматдзвернасць) —
вернасць прывіднай волі.
Такая маленькая я
не сабою гляджу на сябе і хачу неўпрыкмет
адсачыць чужароднасць
у выразе твару знаёмым. Там
за сотню птушыных палётаў
ад роднага дома
з вышыні азіраюся на перакулены свет.

## Між сцен

Ёсць ілюзорнасць пачуцця
у дотыку чужога локця.
Любоў ад кончыка пазногця
да поўнага перакрыцця
рэк кіслародных. Скарасным
ухілам сцен на 90
спаўзаеш. Крылы нападросце.
Ніхто не ведае аб тым.

* * *

Выкраду тваё дыханне,
каб было лягчэй
дыхаць-дыхаць, перадыхаць
тысячы начэй,
безліч апастылых думак,
шмат крутых дарог...
Ты мне не патрэбны, мілы,
мне патрэбен
Бог.

# Апельсін

А тое, што потым было, — невядома...
Ніхто не ўпэўніўся ўвачавідкі,
што гэта цябе распраналі, свядома са скурай
здзіраючы пальцаў адбіткі.
А ты засынаеш і снішся жанчынай,
адному прыгожай, другому — не толькі...
Пухірыстасць скуры і пах апельсіна, пачуцці,
падзеленыя на долькі.

## Пяшчота

Пялёсткі яскрава-чырвоных пазногцяў
перацалуеш — цотна-няцотныя...
На згібе калена і згібе локця
бывае такая Пяшчота — штрыхкодная.
Бывае такая Пяшчота — адчаецца
на згібе калена і локця пячаткамі.
Адзінае добра яшчэ адчуваецца —
рэакцыя
смерці
нервовых
канчаткаў.

* * *

Ты мяне прыдумляеш вясёлаю.
Забаўляе твая дыягностыка:
я мудрэйшая за стогадовую
ў 25 з невялікім хвосцікам.
У 25 з невялікім попытам
на сямейныя справы нудныя
ты мяне прыдумляеш з вопытам
быць пасцельнаю і нагруднаю.
У вачах тваіх чорна-няпрошаных
я такая зусім незвычайная:
басаножкі налева зношаныя,
шнураваныя ніткай тайнаю.
У сукенцы — направа гузікі —
я такая зусім не стыльная,
што мяне раздражняе музыка
ўсіх шапэнаў твайго мабільнага...
І з прыдуманай, выпадковаю,
у святочныя дні высакосныя,
мы гуляем у словы словамі
і ў іншыя гульні розныя.

* * *

У маўчанні маім усе шукаюць сябе
і знаходзяць нямнога.
Крышачку сумна і глуханема
спачуваюць сабе, канешне.
Калі прачнуся ад гэтага свету,
побач не будзе нікога.
Усё стане нейкім простым і зразумелым,
і выпукла-знешнім...
І сэнс, як секс, будзе задавальняць
і даўгавечыць, і вершы будуць ствараць, нават
чужую свядомасць.
Калі прачнуся ад гэтага свету,
стане нечалавечна
свабодна, і я ўздыхну з палёгкай —
нарэшце дома.

* * *

Дзіўна, ува мне мізэрнай
умясціўся свет вялізны
з гэтым небам невымерным
і зямлёю непахіснай.

Дзіўна, на паперы чыстай
прыхаваная за знешнім,
неспісаным — урачыстасць
і патэнцыяльнасць верша.

Дзіўна адчуваць падспудна
ўсю сусветную дрымоту —
тайнапіс літаратурны
пацалункавай пяшчоты.

Прачынацца састарэлай
і крыху бліжэй да Бога
дзіўна і незразумела
і, да жалю, адзінока.

* * *

Знаходжу сябе ў люстэрку.
З якога боку гадаю
насамрэчная. Феерверк
усмешкі. Ты маладая,
уся не ў сабе. Асцярожна
гадаю з якога боку
светападман. Можа
быць сэрца — дапамогі
хуткай пазыўныя?

Міла з сабой пераходзіць
на ты-Вы-ты. Дурныя
думкі заўжды знаходзяць
сваю зматэрыялізаванасць
груба і парадкоўна.

Ты зненавідзіш аддана
ўсіх, хто цябе прыжыццёва
любіў, таму што любімай
нельга памерці. З новых
абзацаў пачаць шчаслівы,
(мінаючы кульмінацыі
люстэркавых краявідаў),
ранак кароткаметражны...
Адна з нас стане адбіткам
вуснаў, у кроў напамаджаных,
другая — адбіткам сябе.

* * *

Цішыня мяне не кранае,
толькі пах твайго цела напомніць,
што ты побач, а я забываю
валасоў тваіх колер і вуснаў.
Я смяюся з сляпых забабонаў,
рукавамі прасейваю цішу
і здзіўляюся — гузік са звонам
ад маёй адарваўся сукенкі.
А калі незнаёмыя рукі
валасы адкідалі ў цемрань,
кацянятка за печкаю муркаць
пачынала ціхенечка. Ціха
апускае на змяты ложак
сваё вока счарнелы месяц
і раскідвае валошкі
у тваіх нерухомых зрэнках.

## Лістапад праз шыбу

Распад Сусвету з інтэрвалам
парыву форткі. Хто апалай
зацыраваў лістотай зырка зямлю? —
стаптанасці і дзіркі,
і сцёртасці на кіламетры
кляновых латак. У паветры
караблікі лістоў крывавых.
Фармат акна… як пераправа…
у іншы свет…

* * *

Мне — 27. Не ўмею жыць,
не ўмею верыць — не прывучана.
Пранізліва ў паветры шабуршыць лісток
пажухлы, цішынёй агучаны.
Здаецца ён зімовай мерзлыні
сусветным глупствам, цацкаю-бразготкаю,
што прабіваецца адно — у карані,
усмоктваецца у альты салодкія,

у боль, які нікому не баліць...
Я ў гэтую нудоту постасеннюю
не веру тым, хто, хочучы любіць,
любіў сябе да самавынішчэння.

## Правіла правілы

Я не тая, што церпіць ці шкадуе,
(без нац. каларыту

і сац. ненадзейная). Вашая збруя
цісне на габарыты

майго свету. Ён пераплецены рыфмай
у Гамора-Садом.

Што вы хочаце ведаць? Падводныя рыфы
мне не вядомыя.

## Калыханка для каханка

Чужы голас знелюбіць,
наступіць яму на глотку...
Спі! У трубцы — пі-пі-пі —
два маленькіх і кароткі...

Хочаш, нараджу сыночка —
твае ямачкі на шчочках.

* * *

Не будзе вясельнага здымка
ў сямейным альбоме…
Нахабная ноч у абдымках
шалёных агоній.
Цвыркун не заплюшчвае зрэнкі
ў маёй цыгарэце…
Заб'юць кулачкамі у сценку
спалохана дзеці,
і будзе гадзіннік гойдаць
у Вечнасць хвілінкі.
А нашага шчасця не знойдуць
сярод фотаздымкаў.

* * *

Тваe вочы — як лесвіца ў неба.
*Я* стагодцзі ўзбіралася марна
на адвечны спачын.
Ты маёй станавіўся патрэбай.
*Я* ж маленькі анёлак каварны —
здабыццё гіачуцця.
Свае брудныя крылы ты марыў
прымяраць да сукеначак модных
бессаромных жанчын.
*Як* шматлікая рэч антыквару,
да антычнай скульптуры падробка,
не каштую жыцця.

* * *

Яна прасіла у мяне дазвол
на максі у пачуццях, міні ў модзе.
Хавала у незнаёмым асяроддзі
басы і альты у скураны чахол.
Яна зусім наіўнаю была:
варыла каву і спявала ў душы.
А здрадзіла аднойчы, як усе душы, —
пад лямпаю пісьмовага стала.

* * *

Калі мужы маіх сябровак
прыводзяць да сабе каханак
і з імі цешацца да ранку
агеньчыкі ў цёмных вокнах —
я сплю спакойна. І вяроўка
не рэжа скуру. Калі ў скверах
мае шчаслівыя сяброўкі
бяруць пад рукі кавалераў,
што у заношаных шкарпэтках
праз лужы скачуць танцам стройным...
З-пад ног адкіну табурэтку —
і сплю спакойна.

* * *

Цалую дотыкамі пальцаў
цябе, як кветку, асцярожна.
У шматгалоссі варыяцый
твой шэпт утнёслы і трывожны.
Ты прапануеш паўстагоддзя
за тое, што табе належыць
не буду. У маўклівай згодзе
падзелена Хрыстом і Будай.
Хацела паўстагоддзя слухаць
і чуць пустых пакояў рэха,
трывожны шэпт і завіруху,
і цвінтароў няўмольных уцеху.
Дзе сустракаліся мы зрэдку —
жабрачкі, прастытуткі, геі...
Як дзіўна, — заквітнела кветка
за кратамі аранжарэі.

* * *

Мецъ слых — і не пачуць твой голас,
мецъ зрок — і не пабачыць вочы.
Навобмацак даткнуцца крыкам
да мілагучнасці твайго імя.
І адчуваць халодны подых,
што сярод ночы п’е атруту
са зрэнак на старых партрэтах
вар’яткі-бабкі й дзеда-каваля.
Тады і смерць не мела сэнсу,
трымала ў тонкіх пальцах свечку
й бяззубай цішай пазяхала:
як ты, яна хацела жыць.
Я ўспамінаю тваё цела
ў снах, дзе час так проста зблытаць
з свядомасцю. Я буду плакаць
й лязо вастрыць.

* * *

Вы выспявалі музыкай ўва мне,
Вы вуснаў прагных звыклае жаданне,
Вы позіркаў таемных хваляванне,
што выспяваюць музыкай ўва мне.
Я напаўняю Вамі цішыню,
распуства думак, словаў і памкненняў...
Я смага рук, аголенасць каленяў.
Я напаўняю Вамі цішыню.

* * *

У паэтаў ёсць свае жанчыны,
У паэтак ёсць свае паэты —
пацеркі з прамёрзлай арабіны
і ў начы халоднай цыгарэты.

І чужыя, як бясконцасць, песні,
і чужыя радасці і болі,
быццам птушкі ў палёце веснім,
мудрыя, яны шукаюць волю.

У душы пустой, бы ў сутарэннях,
у паэтак ёсць свае сакрэты
і салодка-горкі смак натхнення,
і чужыя, як мяжа, паэты.

* * *

Зладзейка!
Я проста хацела душу тваю скрасці.
бо шчасце,
што цяпіецца больп та імгненне —
няшчасце,
бо лёс вырашае
з'яднаць нас адзіным расстаннем. Не
стане нічога,
й мяне на світанку не стане...
А золак ружовы
я ў кубачку кавы ўтапіла —
табе без мяне ён
ужо не спатрэбіцца, мілы.

* * *

Калі-небудзь мне б прысніцца
ў трыдзесятым сне па-царску
каму-небудзь каму-ністкай
ў каму-фляжы каму-нарскім
з пісталетам і гранатай
быць ні ў чым не вінаватай.

* * *

Пасвавольце ў маіх валасах,
пацалункаў пакінуўшы пах
там, дзе шпілька зрабіла замах
на пульсацыю соннай артэрыі.

* * *

Мяне кахалі не за тое,
за што кахаюць.
Я ваявала не за тое,
за што ваююць.
Таму й на вогнішча такую маладую
за тое, што такая маладая.
Хапіла б на паэтаў сотню
з нечым
таго агню з тае макулатуры.
Літаратурка і літаратура
не спапялуе —
толькі пакалечыць.
Я стануся вясёлаю блудніцай,
чаго, у перспектыве, ўсе чакалі.
Ці бачылі, як полымя скакала,
і занімалася мая спадніца?

* * *

Я хацела б памерці вершамі.
Паміраюць не толькі бяздарныя,
паміраюць і горшыя, й лепшыя,
і наогул не напісаныя.

Я хацела б ужо не старыцца,
бо старое віно — удалае,
а старая жанчына сварыцца,
што такая недасканалая.

А я мудрая за мудрэйшага:
так шчасլівіцца і пяшчоціцца.
Я хацела б памерці вершамі,
на якія паэты ўродзяцца.

* * *

Падазраю, што па маёй віне ў
паскудны вечар працякаюць краны…
(дапасаванне ў родзе і віне —
у мужчынскім родзе і чарніле танным).

Як выключэнне з правілаў: ёсць не-
апошні вершык з рыфмай недарэчнай.
Яго прыгаварылі да мяне
за спробу здрадзіць, хоць яно і спрэчна.

Цвікастыя партрэты на сцяне,
дзе профіль і анфас, і лішні трэці.
Падазраю, што па маёй віне
пакутуе мужчына ў гэтым свеце.

Што ж, я заўжды натуршчыца жывых,
не мастакоў і нават не каханкаў…
Таму і вінаватая за ўсіх,
хто можа не прачнуцца гэтым ранкам.

## Сонечны зайчык-1

Свет набывае форму
празрыста-цялесную.
З дзвюх палавінак мяне:
зямной і нябеснай завершавалася я
у вясёлыя строфы,
з дзвюх палавінак мяне,
з дзвюх катастрофаў.
У гіалюбоўным такім
суіснаванні
смерці няма —
адно прадчуванне,
што, балансуючы на
вастрыі бліскуча,
зайчыкі вольныя, сонечныя,
неўміручыя.

## Сонечны зайчык-2

*Я* бачу свет такім, якім хачу:
агульна-чалавечым, не па чутках,
жыццё сваё у фарбах і у сутках.
*Я* бачу свет такім, якім — маўчу —
сакрэтна! Сонцасветы нараспеў —
маленькія жывыя жаўтацветы.
*Я* пачуваюся амаль паветрам
усеабдымным і крыху — усе
беларускім. Мне ўласціва быць
крыху дзіцём і нават болей:
не адчуваць ні сораму, ні болю,
не адчуваць ні смутку, ні тугі.

* * *

Выратуй мяне ад невядомасці,
невядомасць засціць і гняце.
Бог стварае нашыя свядомасці
ў цемры, ад таго у слепаце —
асляпленне безгаловых твараў,
аглушэнне без'языкіх фраз...
Я нібыта эшалон з таварам —
агнястрэльнай зброі пад заказ.
Па начах я чую захрыбетнае
за спіною рыкашэтам — плі!
Выпадаю з гэтага сусветнага
жаху — гузікам з пятлі.
Выратуй мяне ад бессэнсоўнасці,
вырві, выдыхні, расцерушы...
Бог пакутуе ў бязмоўнасці
пад маёй сарочкай на крыжы.

* * *

Слухаю словаў нервовыя цікі —
імпульсы ціхія, ціхія, ціхія...
З пэўных ствараюцца сумныя душы
вершаў. Ператваруся адцушынай
свету. Глухая і без'языкая —
ціхая, ціхая, ціхая, ціхая...

* * *

Я сябе, любімую, люблю.
Мне з сабою да нуды па-свойску
у пошуках дзіцяча-філасофскіх
углядацца проста ў вышыню.
І выпіхваць думкі на рэнтген:
непагадзь, падманы і забойствы —
ці непрадказальнае геройства,
ці непрадказальнасць цёмных сцэн.
Ўсе губляюць гэтак дзень у дзень
боскія памылкі у аблічча,
а душы шыкоўную здабычу
закругляюць моўчкі на мішэнь...
Толькі я паспела прыкарэць
да сухое глебы, дзе нанова
прарастаю вымярэннем слова,
каб аднойчы словамі даспець.

# Яшчарка

Ёсць паміж намі нешта большае
за вышыню: нечалавечае
глядзенне ў цемрадзь бездарожную.
Ёсць на вяровачках вузельчыкі:
да шчэнту раз — і недагледзелі,
да шчэнту два — і абяззброілі.
А Вы мяне не папярэдзілі,
а Вы мяне не супакоілі.
Адшалупенне амярцвелае
хвастоў і прарастанне сутнасці.
Балюча жыць... ды набалелае
аднойчы называюць мудрасцю.

* * *

Я слухаю Вас…чую парады.
Пачуцці схаваныя ў вобласці пятак —
ніколі, ніколі, ніколі, ніколі….
Я слухаю цішу…чую паролі
Сусвету ўва мне і мяне ў Сусвеце,
ў нейкім нечалавечым сакрэце,
напоўненым сэнсам ад краю да краю…
Я слухаю, як цішыня разбурае.

* * *

Як быццам ты,
як быццам я,
як быццам нас з табой з’яднала
і перагнула удвая:
цябе зашмат, мяне так мала.
На памяць стогн,
на памяць уздых,
на памяць міліметры цела.
Адольвала цябе на слых,
навобмацак цябе хацела.
Напрасткі, напралом, унутр,
да перасыці уладання,
дзе толькі гузік-перламутр —
апошняе ыратаванне.
Дзе быццам мы,
дзе быццам спім,
як шкельцы у калепдаскопе.
Цябе няма… мяне зусім…
так мала, што ужо не хопіць…

* * *

Ціша баялася слоў
шэптам і крыкам. Змалку
мне дамавік уплёў
у валасы пужалкі
банцікам там і тут,
і ад таго не страшна
ведаць пра чорны кут —
павучыную рукапашную. Ц
еню майго крывізна
моўчкі ў жах прарастае —
проста мяне няма
дома і не бывае.
Хочацца ў змроку лятаць
проста пад самай столлю,
каб у вачах стрымаць
слёзнае мора.

* * *

Я цела тваё,
як
спектакль-меладрамачка:
Для кожнага пальчыка
ёсць свая ямачка,
На кожны выгіб —
мармурнасць тварожная,
табу пацалунка —
на выпукласць кожную.

* * *

Мне балюча, як ты сыходзіш за мой парог,
пераступаеш парог свядомасці светавы.
Мне рэжа вочы тваё святло... Крок —
і ты знікаеш. А я вачыма савы
на сонца мружуся, углядваюся да слёз
у гэтыя чорныя плямы... Здаля
здаецца каханнем крыльцаў лёгкі неўроз,
а пыл — пылком
на лапках мляўкага матыля.

* * *

Вершы, як і чалавекі,
мруць пайменна...
У цішы бібліятэкі
я рыфмую ўнутрывенна,
ўнутрыслыхава спяваю,
ўнутрызрокава малюю...
У сабеператрываю,
у сабе пераначую.
Стану вершыкам маленькім,
правільным аксюмаранам,
паміраючы ціхенька
недарыфмаванай...

* * *

Тысячамі ножак
шлёпае дожджык
Неба мярэжкай,
твая ўсмешка
у кроплях неба…
Цалую ў неба…

* * *

Сімптом — невылечна...
Сімптом — смяротна...
Я кожны дзень сябе
знаходжу ў спісах мёртвых
жывою...
Задыхаюся ад неба,
раскрышанага па сінечы крохкай,
бы какаін,
і шчасця перадазіроўка
ў пацалунках
хлопчыкаў цнатлівых.
Паміж Харыбдаю і Сцылай
іх вуснаў вільгаць
і вачэй знямога.
Усе твары боскімі былі,
таму што Бога
ў твар ніхто не ведаў...

## Жмуркі

Я ўмею маўчаць
з адзінотаю ва ўнісон.
Я так доўга жыла,
што нарэшце забыла ўсё,
нават сэнс. Успамінаю імя
і не помню імя.
Я так доўга жыла,
што здавалася нраўдай хлусня.
Што здавалася мне знаёмым толькі адно:
траекторыя ценяў-падзенняў
на самае дно.
Можа стацца мяне пакуль
яшчэ не было.
Я гуляю ў жмуркі —
жмуруся на святло.

* * *

Хварэю пад небам Мінска
хваробаю суб'ектыўнай...
Успамінаю нізкі
зморшчынак твару — дзіўнай
пяшчотаю тэмпературу.
Прэм'еры, спектаклі, фэсты...
У горадзе касавурым
гэтым не маю месца
свайго
і не маю мэты
сваёй.
Ліхаманкава нешта
рыфмую — дым цыгарэтны.
Нават уласным вершам
недаступна, як неба,
як лінія абанента.
Станаўлюся патрэбай
чужога жыцця, фрагментам...
Жыву — галаву ў калені,
хаваюся за далоні —
Паўсюль, як да нараджэння,
цёмна, быццам ва ўлонні...

## Маналог настаўніцы

Паскудна так,
што нават вершы не пішуцца...
І толькі крэйда
ў тонкіх пальцах раскрышыцца:
адна палова —
на асфальтавыя сонейкі,
другая — трупная,
для крымінальнай хронікі.
І я — паскудная,
сцярвозная і безідэйная.
Атрутнасць дозаў —
уваскрашэнні пахмельныя.
Зарыфмаваная,
але не ямбічная.
Святая ўся й часткова педагагічная.
Распятая на дошцы далонямі:
і пальцаў выпацканасць,
і рук агонія.
— Не пакідайце... каб не памерці...
«Дзень добры, дзеці!» —
росчыркам дробным.
Дзень добры, добры, добры...

* * *

Лавіла дажджынкі
тварам і ротам,
шыракарота.
Пальцамі і каленьмі
пускала карэнне.
Голая зямля — скура
Амура.

* * *

На грудзях
пацалункаў пункціры:
ўтуды-сюды,
ўтуды-сюды, —
сляды, што вядуць
да абрыву
і зрыву голасу
на грудны.

* * *

Мяне пераходзяць уброд
сляпыя, глухія, кульгавыя...
Любімыя і ласкавыя
ідуць у абход.

Смялейшыя — кідкія ўплаў,
палахлівыя — ледзь акунаюцца,
ды толькі назад не вяртаюцца
ахвочыя да пераправаў.

І я, каб не патануць,
зямлю прыціскаю каленьмі
на выспе сярод тапельнікаў.
Баюся віры скалануць...

* * *

У пальцаў маіх памяць крохкая...
Аголеныя:
бязгрэшныя і бессаромныя,
ды вопытныя:
безбранзалетныя і беспярсцёнкавыя,
рукі мае — арабінава-гронкавыя.
Каго хочуць любяць,
каго хочуць згубяць...

* * *

Мне не стае Айчыны,
быццам яе няма.
Быццам на мапе з гліны
надпіс: «Няма Айчыны».
...У сэрцы гучыць святочна
«ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ»...
Быццам мяне няма,
так не стае Айчыны.

* * *

Злепленыя з пластыліну,
лёгка змінаць у камякі
сполахі, шорахі, шолахі
губна-згубныя.
Вусны чужыя — штыкі.

# Думкі ў метро

Ведаю, чым гэта скончыцца:
ад безвыходнасці скорчыцца
месяц і цемра абрушыцца,
і цалкам Сусвет аглушыцца...

Стаю над Пустэчаю нейкаю
з падфарбаванымі вейкамі,
з падфарбаванымі слушнымі
думкамі ВэНэУшнымі.

Мне да прыпынку канечнага,
самага небяспечнага,
ад станцыі Незалежнасці
да станцыі Непазбежнасці
лёсу.
        Мае дзіцячыя
гульні перайначылі,
думкі мае перадумалі,
стала чужой задумаю. —
Боскай? —
дай Бог адважыцца.
Нітка крыжыкам вяжацца,
покуль раптоўна не скончыцца.
Хочацца, хочаццца, хочацца
выжыць...

* * * *Л.Г*

Гэтак раптоўна зведала Вас
цалкам — нібыта ўнутрана-знешне...
Неяк на днях чытала якраз
Вашыя вершы.
Я не ўмею проста чытаць
і вар'яцею пад небам Мінска.
Мне захацелася Вас абняць
па-мацярынску.
Не атрымалася так, было б,
можа, крыху па-жаночы спакусна.
Вы цалавалі б мяне ў лоб,
я Вас — у вусны.
Чула я недзе, што акрыляць
нельга крылатых.
За нейкай коскай
Вы захацелі б мяне абняць
не па-бацькоўску.
Не па-бацькоўску, ну і няхай,
Можа, крыху са спакусай мужчынскай.
Я зазірнула б за небакрай
Мінска...

## Ліпень у ліпавай алеі

За пальцы-галінкі трымацца парадна
радком звершаваным дрэў. Плагіятна
нябёсам у рот зазіраць — па рыфмы —
нібы ў грыбы. Зацвярдзелыя лімфа
вузлы прыхаваных ствалоў і карэнняў.
Мядовае ліпа-апладатварэнне!

* * *

Шчабеча ліпень птушкамі
айчынна-шапялявымі,
кляновымі макушкамі
і зёлкамі гаркавымі, а
блокамі тварожнымі...
Я маміна маленькая,
у стаптаных басаножках і
з пабітымі каленкамі,
сяджу ледзь-ледзь цялесная
вярхом на падаконніку.
І скачуць паднябесныя
мне ў рукі зёлка-конікі.

## Мышалоўка

Замураваныя падпольна
ў поцемкі, на самым дне
ўсе тыя, што жывуць ўва мне,
мяркуюць кожная па-свойму.
Адны з іх мараць доўга жыць,
другія — скончыць самагубствам,
і, Божа мой, якое глупства
іх адгаворваць і прасіць
быць, як усе. Я на правах
старэйшай прыдумляю нормы
пачуццяў, чуйна і па-свойму
падпітваю адчайны страх
стаць, як усе. На самым дне,
дзе валадарыць падсвядомасць,
дзе сонца — нечая маёмасць,
прынады ставяць на мяне…

* * *

На тваім запясці мае пальцы
далікатна, быццам бы на пяльцах.
Прастадушны і праставалосы,
я нікому не скажу, не бойся,
дзе хаваецца тваё дыханне
(можа, у зашпіленым падмане
жорсткага каўнерыка «пад горла»?)
Недзе нешта быццам бы памёрла,
і у гэтай цішыні памерлай
хочацца стаць жонкаю і сцервай…
Хочацца паверыць і не веру,
камяком у горле пад каўнерык,
набалелай крыўдаю наўзрыд і —
пецярнёй, наводмаш па *нябрытай,*
па тваёй пяшчоце…

## Спроба рэфлексіі

Гіаўналецце лета. У сабе па шыю
выю — пазваночна-дэпрэсіўны збой.
Усякая пустэча — бы шызафрэнія,
ўперамешку з нецвярозасцю тупой.

Я жыву няспешна, а таму заўчасна,
непраўдападобна — непрабудным сном
і шукаю выйсця... ці ўваход занасны
паміж першым і апошнім пазванком.

* * *

Мёртвыя вершы, як мёртвыя дзеці,
не дасягнуўшыя паўналецця:
несуцяшальна і непрабудна.
Вершапрыблудна.
Вершапрыблудна — гэтак бывае,
свой кароценькі век дажываюць
кропкі і коскі. У завяшчаннях —
тэма маўчання.

* * *

Па невядомым мне загаворы
людзі, падвешаныя ў калідорах
на кручковых цвіках, — ніхто —
дэмісезонныя паліто.
І ў стракатасці асартыменту
ёсць крывадушныя з Second handa.
А мілыя ўсмешкі — ліслівасці шнары
запінкі твараў.

## Вопіс жыцця

Недапісаны ліст... Рыфм не стае...
Восень у засадзе, і вершы на самасуд.
Мы па-за часам, часу не існуе,
можа быць, мы ўжо мёртвыя, зараз і тут.
Я прымярала на свой нестандартны памер
медалі «За вернасць»,
нібыта мадэлі быцця,
па мястэчковых законах маю намер
не спадзявацца на нейкі шчаслівы працяг.
Спіс інвентарных пачуццяў даўжэй,
чым была
насапраўды любоў, яе тыпажы —
твары ў твар: людзі і Бог-скала...
Кукалкі ў коканах на спавіванне душы.

* * *

Хочаш нявінных прызнанняў-усхліпаў?
Я стала, мажліва, тваім архетыпам:
пра-маці, пра-жонкай, пра-нейкай багіняй
з маленькай іконкі над аўтамабільным
шклом лабавым... пра-радзімай-радзімкай.
Маіх ракавых не чапай фогаздымкаў
і вершаў — над і — распранутыя душы...
Я проста заўжды хварэла на ўдушша
любові-пястоты шырокаэкраннай,
тваёй адзінотаю працытавапай.

* * *

Не зазірай мне ў вочы,
у сарцавіну самую
цёплую і нелюдзімую,
у пошуках нейкай роднасці.
Тут прыхаваны святыні —
Радзімай і Мамаю
клятвы-выслоўі.
Недзе на нізкай частотнасці
сэрца талахае.
Час запісаны ў метрыках —
увекавечаны.
Сцежкі кахання абочныя.
Носіш сарочкі навыварат,
шпількі ў каўнерыках,
неадэкватныя позы,
каб не сурочылі.
Недасказаныя словы,
каб не падслухалі
сэрцабіццё з калючаю
кардыяграмаю.
Мы заручоныя з небам
анёламі-духамі...
Не зазірай мне ў вочы,
У сарцавіну самую.

* * *

Я заслужыла быць нязграбнаю
з Вамі: словаў крыгалом,
касначзыкасці нахабнасць —
нагбом.

На вуснах сны і прысмак вінны,
нявінных пацалункаў бой.
Я заслужыла быць адзінай —
сабой.

У супярэчнасцях пазнання
жыцця — душа на знос і злом.
Я заслужыла пакарання
радком.

## Ода хлопчыку-барабаншчыку

Пальцы твае — барабанныя палачкі.
Дробат жадання. Нацельныя ямачкі —
зоны бяспекі. Усе мае страхі
спяць пад тваёю цёплаю пахай.
Дзень сазлізне з апошняга гузіка.
Ноч заваюе права на музыку,
цішыня загучыць несціхана.
Бі ў барабаны!!!

## Прышчэпка волі

Паглядзі на мяне з вышыні переражытага.
Я дзяўчынка-вакханка-дурнічка, прывітая
вакцынацыяй шчасця, ад таго
і бясстрашная
на каханне з пачуццямі сабатажнымі.
Ад таго і даступная, ад рызыкоўнасці.
Мы з табою жывем на адное частотнасці,
на адной вышыні, на адное ін’екцыі.
З вышыні гэтай свет мае форму трапецыі
чатырох бакоў —
спрэчку радкоў.

* * *

Адпушчу сваю птушку,
ёй цесна у камеры сэрца.
Размяняю ўсё тое, што маю, на дробную медзь.
Мы не бачым дарогі,
таму што жывём ў паняверцы.
Птушкі ж ведаюць праўду
і шлях, куды трэба ляцець.
Акрыялыя душы лятуць на спатканне,
там дзесьці
акіян небакраю і светлага неба краі.
Я згубіла спакой
у нябесных памежжах Бярэсця,
дзе лунае маё
разарванае сэрца ў крыві.

* * *

*Я* — на «Ты».
«Вы» — бар’ер, браканьер, бракаслоўе,
цяжкі маятнік слоў,
што адлічвае гучна гады
у падвешаны стан.
Ад таго, што жыццё — пасляслоўе
нараджэння любові,
я буду з Табою на «Ты»
(на правах улюбёнай, якой усё даравана
задарма: і магутнае слова Тваё і пагляд).
Ты жывеш рэчаіснасцю,
я ад яе адарвана
і ствараю з хаосу сэнсоўнасць,
крыху неўпапад
рэчаіснасці, без каментару і спецый
на адкрытыя раны.
Адчуваеш—халодзяць вятры?
Я б хацела схавацца
на дне Твайго беднага сэрца,
прыкіпець, прыкарэць
і стацца Табою... знутры.

## У Эгенбергу

Эгенбергскаму рэху — уцеха:
перакладае вершы
на мовы народаў свету...
Ведае ў арыгінале
дзеканне-цеканне...
Рэха заўсёды як чуецца,
гэтак і вымаўляецца...
Прычасціўся Алесь.
Адпіў Барыс.
Прыгубіла Ярына.

* * *

Я носьбіт сябе і сваёй незалежнасці:
казённай душы, кабінетнай знешнасці,
«зацюканай» мовы, халяўных заначак,
сірочых вачэй і бензінавых жвачак,
заложных багоў і сумніцельнай веры...
Ува мне пахаваныя ўсе піянеры ўсіх
«А», «Б», «В» 5-тых —
сярэдзіны 80-тых.

**Платанічнае**

Мы жывем у вачах адно аднаго,
бесцялесна згасаем.
Акуратна вершаскладаем
дні. Німбы нашага цела ўжо
расквітнелі (дух — як плоці жаніх).
Мы на вейкі з табою замкнемся
і адно ў адным застанемся
ўдваіх...

# Харакіры лірычнага героя

Мастацтва хлусіць пранікнёна...
Жывеш у пасляслоў'і кніжным,
працытаваным пасмяротна
лісту паперы па скла-дах.

Ёсць шчасце — выбрацца жывою
з-пад гнёту пераплётаў лішніх,
кампазіцыйных кульмінацый,
любоўных драм і меладрам.

Ты, як вядома, прэтэндуеш
на смерць геройскую герою,
на аўтарства свайго маўчання,
на — цішыню і поўню сніць.

І паміраеш пранікнёна
недапісанаю лухтою,
дзе быць героямі абрыдла
і проста так абрыдла быць...

* * *

Ад цябе засталося неба
у празрыста-ружовых пражылках —
падатлівая скура, на якой праглядаюць сцежкі
маіх пазногцяў.

Сталі мне ненавісныя людзі,
што вачыма свідруюць вышыні.
У кветкавых крамах анёлы —
душы памерлых. Кветкі
задыхаюцца ў столі.

Я асобна, хмарка ад хмаркі,
на вятрысках прасушваю неба.
Ты аплакваеш сваю згубу
са сцяжынамі маіх вуснаў і пазногцяў.

## Дыфузія пацалунка

Я — адмычка Свету.
Ночы фрагмент:
знічка-шызафрэнічка
не разбілася ўшчэнт,
а патрапіла ў лунку
душы зямной. *Я* —
дыфузія пацалунка
смерці-жыцця.

* * *

Дзень, у якім не быў раней,
раптам настае аднойчы.
Ува мне зашмат мяне —
ціхіх вершыкаў прарочых.
Хочацца на дно, на дне
разграбаеш бруд агульны.
Ува мне зашмат мяне...
моташна й няўтульна.

* * *

Мы да крыўды з табой няшчырыя.
Цягнем уніз вышыню.
Снег у неба ляціць бяскрылы —
засыпае зямлю.

Мы да крыўды некампрамісныя,
мы да крыўды — не мы.
Адзічэлыя і злаўмысныя
у чаканні зімы.

А зіма зацягнулася. Сніла я
цяжкі грэх...
Снег у неба ляцеў, бяскрылы,
быццам смех.

* * *

Змучаная табою.
Змушаная за табою.
Не побач, а за спіною —
мкнуся ўслед, як павой.
Усё па шалёных стратах
крочу я — аты-баты.
Пэўна, і сам не рады,
што пакінуў жывой.

## Раніца

Па-за мной і ўва мне незалежна
дзень сцвярджаецца днём — 7.30.
хлебна-кававым пахам уліцца
ў змяты ложак мяцежна.
Небяспечная дызентэрыя —
небяспечнасць душэўнай атруты.
Не пускаю за дзверы, унутр:
за дзвярыма заўсёды не тыя.
За дзвярыма заўсёды не тая —
ці паўзком, ці высакамерна,
ці няўжо я так рана памерла,
што нікога ўжо не кахаю?
Дзень сцвярджаецца днём — нясмела
распранаецца ўглыб і ўшыркі
і саслізвае ў цёмныя дзіркі
па-за мной і ўва мне
пад прыцэлам.

* * *

Там ранак замгліцца святлом,
і ціхі птушыны клёкат
разбудзіць над сонным сялом
мяжу нерухомых аблокаў.
Між небам і між зямлёй,
як між чалавекам і Богам,
халоднай нястомнай тугой
так многа і так нямнога.
Я буду дзяцінства сніць,
таполяў пух срэбна-белы...
Я столькі павінна зрабіць
і столькі ўжо не паспела.

* * *

Варажыла восень над Бугам.
Жаўталісне мяла спадніцай…
Журавы развітальным кругам
над самотнай плылі капліцай.
Трапяткая пані-бяроза
каля плота аб кімсьці шаптала.
…Проста я ішла па дарозе
і зусім цябе не чакала.
Проста сёння ўначы над рэчкай
месяц зноў за цябе маліўся.
Ты казаў, што не бачыў лепшай…
Можа, ты памыліўся?

**Радзіма**

Кветкай першай, блакітнай вясной —
незнаёмая радасць.
Ты — усмешка матулі маёй
і далоняў шурпатасць.

Па-над соннай ракою агні
і загадкавасць саду,
дахі хат, што буслы будуць сніць
на чужынных прысадах.

Ты, як зорка, што з цёмнай начы
прыляцела іскрынкай
і прыціхла ў мяне на плячы
напамінкам-радзімкай.

## Згадкі дзяцінства

Сонца — гняздом на бярозе.
Босы маленькі падпасак
гоніць па пыльнай дарозе
кудлаты авечы статак.

Сцяжынкай між яблынь белых
па водару незямному
хусцінка плыве, як вэлюм, —
маці ідзе дадому.

Вокны запальвае вечар,
і на суседскім ганку
злізвае кацянятка
з чырвонага неба смятанку.

## **Бабіна лета**

Рыжы дзень, смак рабіны горкі.
Рыжае сонца шамаціць пад нагамі.
У хатцы збуцвелай, за рыжым пагоркам
снуе павуцінне Рыжая Пані.

* * *

Месяц зірнуў за фіранку.
Хаты ў радок. Бярозка.
Цвыркун завёў калыханку —
дрэмле вёска.
Хустку на плечы — і ў сенцы.
Здрадліва рыпне ганак.
Святлу ў тваім акенцы
ціха шапну: «Дабранач!»

* * *

Льецца шэпт цішыні праз шчыліны плота,
толькі конік зялёны раз-пораз цвыркоча,
і раскідвае вецер сухую лістоту,
у сланечнік хаваючы зорачкі-вочы.

І здаюцца страшыдламі голыя ліпы:
у падраных кашулях, стаптаным абутку...
Напалохалі цішу сабачыя ўсхліпы,
пацягнулі, бы костку, у чорную будку.

* * *

Я гукала цябе...
Чыйсьці позірк ціхутка
мільгануў і спыніўся.
Чырвонаю хусткай
захінуўся, як восень
у асмужанай высі.
Трапяткою лістотай
захлынуўся ў журбе...
Мой дарагі,
        *я* гукала цябе, —
адазваўся другі.

* * *

Пастукаеш ціхенька ў дзверы —
я ціха табе адчыню.
Ноч кацяняткам шэрым
прылашчыцца да агню.

Абдымеш мяне за плечы
і станеш на пальцы хукаць,
будзеш казаць аб нечым,
а я — пра сваё слухаць.

Зацепліш апалак свечкі,
а цемра запаліць зоры,
датлеюць пацiху ў печцы,
сыдуць на попел дровы.

Адкажаш на запытанне
ночы глухой і шэрай:
— Гэта наша каханне...
І ноч за акном паверыць.

* * *

Там лістапад на двары —
марай наступнага дня...
Не здагадаліся Вы:
тая, што з Вамі, — не я.
Тая, што з Вамі, — спакой
п’е з бяздонных вачэй,
і занямелай рукой
самоту здымае з плячэй.
Там, за вакном, толькі дождж,
гэта яшчэ не зіма.
Позняя восень, і ўсё ж
тая, што з Вамі, — не я.
Тая, што з Вамі, пайшла
зоркай згарэць у начы.
Моўчкі замкнецца душа,
а я загубіла ключы.
Зноў лістапад на двары —
згадкай мінулага дня.
Не здагадаліся Вы:
тая, што з Вамі, — не я.

* * *

Голыя рукі, голыя твары,
голыя цені на тратуары.
Там, дзе крыжуюцца голыя мары,
дым цыгарэтаў і гукі гітары.
Голыя вокны, п’яныя людзі,
тыя, што нас за маўчанне асудзяць.
І мітусіцца, стогне да ранку
голы ліхтар за маёю фіранкай.

**Па той бок нябёсаў...**

пульс губляецца
рух электрычнасці
перыядычнасцю
ў вечнасць...
па той бок нябёсаў г
раюць аркестры
папсовых тамтамаў
пра ўсё і каханне
штучнае ранне
без цябе злом іголкі
стотысячнадоўгі
палёт ценю
у зямным прыцягненні
нябёсаў адпіхванне...
ціханне-ціканне
ідэй Канфуцыя
начныя галюцы
нацыі і народы
цяжкія роды
верша ў радок...
дыхаеш па той бок
нябёсаў...

* * *

Застанься там,
                    як за калючым дротам,
без права плакаць. Між жывым і мёртвым
ёсць розніца: адны заўсёды раяць
памерці, а другія — паміраюць.
Мне не пад сілу несці твае вёсны,
як рукі на плячах. Ардэнаносны
мой шлях героя, як і твой, — на неба.
Усё праўдападобнае на небыль
ёсць быль, калісьці, з кімсьці і заўчасна
бяссонніцай агілаканая страсна.
Апалы снег — на смерць рудых сняжынак
іх накрыж ножак-ручак павуцінак,
полк за палком ажурных батальёнаў
у пераломах, звіхах незлічоных,
хруст-хрык з-пад ног на адвароце
зямной кары: на жываце ў макроце
ці на спіне… у неадушаўлёнасць.
Накласці моўчкі рукі на прыстойнасць.

## Памяці Васіля

Я спазнілася на паслязаўтра.
Паслязаўтра не было нядзеляй.
Мы яшчэ задоўга да антракту
на дваіх пустое неба дзелім:
мне — сінеча, а табе — адценне
Шляху Млечнага.
Адзін Маленькі
Прынц мяне цалуе на каленях —
прысмак ледзянцовай карамелькі...
Вусны хочуць помніць
толькі дотык.
Вочы помняць вочы
й бездань столі.
Паслязаўтра не было суботай.
Паслязаўтра не было ніколі.
Са спасылкаю на ідыёта,
у свае амаль што дзевятнаццаць,
мой Маленькі Прынц умее лётаць.
А я — толькі плакаць і смяяцца...

* * *

Я ўваходзіла тройчы ў раку
і выходзіла тройчы
за табою, здзіўлялася
зорнаму пебу ў санскрыце.
Я пусціла ў пагоню
засмяглыя вусны і вочы.
Так пяшчотна і шчыра
можна адно — ненавідзець.
Абірала шляхі,
карацейшыя за некаханне:
цягніком да Галгофы,
а потым пешкі на неба.
Адляталі у вырай анёлы
на гнездаванне.
Збіла тры посахі я,
згрызла тры бoханы хлеба.
І цянер збываю паціху
з аўкцыёну
за бясцэнак пастскрыптумаў-
фактумаў вершык сірочы,
безвыходнасць якога —
усяго самаабарона,
а шматкроп'е — тры зорныя кулі,
што ў сэрцы збярог апаўночнік...

* * *

Нас на дваіх з табой пахавала
вусны ў вусны смерць — прагадала.
Значыцца, можна пражыць напалову
гэтае неба ў пражылках барвовых,
слёзы без слёз і твары без твараў,
вечнасць без вечнасці — смерць прагадала.
У свежасырую глыбокую яму,
распоратую далакопам п’яным,
спаць пакладуць з надрэзам аорты
сонечных зайчыкаў-матылёў мёртвых.
Усё, што ад нас застанецца, — радзімкі —
чорныя кропкі на фотаздымках,
аспрэчаныя ў сварцы нягромка:
гены ці проста дэфект фотаплёнкі.
Нас пахавалі вочы ў вочы.
Не бойся, — усе паміралі аднойчы.

**Анічоганяма**

такія высокія столі
неба душы варушэнне
нібыта пад мікраскопам
з прыцэлам на незваротнасць
пад градусам у чатыры
куты нібы ў чатыры
бакі ўсяго несусвету
жывучасць аголеных нерваў
казыча тваю дзявоцкасць
так проста стацца вар’яткай
абранай сярод абраных
вясновая антычнасць
становіцца невыноснай
дзе кожны ў сабе квітнее
пухіркамі і кветам
а пяць пялёсткаў заўсёды
ўсім гарантуюць шчасце
усю гэтую «Вечная памяць»
на стужках люляе вецер
у жвір што становіцца пухам
загразлі свінцовыя ногі
нібыта у вату позна
на кончыках цыгарэты
згасаюць нечыя душы
і я нічога-нічога
пра смерць у маім несусвеце
нічога няма толькі столі

нябесныя і салата
з капусты марской і Кафка
і вечнасць у распараджэнні

* * *

У яго прыцягненні бачыцца
нешта зямное.
Неба хмурыцца, скардзіцца, плачацца.
Сезоннага крою —
неба крыжыкам кананічнае,
беларускім арнаментам, з
халерычна-меланхалічным
тэмпераментам.
Знічкі цэляць анёлы босыя
нам за шыварат.
І здаецца жыццё нябёсамі
навыварат.
Я сягоння такая смелая
і крылатая,
апранула шаўкова-белае
да пятак...

* * *

Дзень пачынаенна з назваў
рэчаў якія можна
кранаць і штурхаць нанобма
цак-цак абцасікам дзіўна
натыркнуцца на неба
(няўжо па месцы ушыркі
углыб і ў неабсяжнасць
душы) што ты можаш што ты
ТАКОЕ калі не маеш
ні кошту ні даравання
ні веры ў тое што недзе
ёсць... забываю Бога

*«Непапраўна толькі смерць».*
Сноў, закалочаных цемрай, сакрэты
нашыя — белых карункаў прасціны.
Ад цыгарэты і да цыгарэты
я пражываю дваццаць хвілінаў
ночы. Аднойчы, нібыта на роўных,
мы сустракаемся запланавана
тут, дзе падман і рэальнасць
забаўна перапляліся клубочкамі.
Мама!
Боль не кранае, а метастазы
сэрца — шчымліва-пякучай віною...
Я не ўпэўненая, што па-за
мной існуе яшчэ нешта жывое.
Ад цыгарэты і да цыгарэты
я пражываю дваццаць абдымкаў
нечыіх, каб не абрушыцца... гэта —
*гета*
тваіх
фотаздымкаў.

* * *

Не ўпэўненая ў тым, што заўтра
будзе заўтра,
хварэючы тваёй адсутнасцю зямной,
калі ты проста спіш і бачыш сон —
не варта
аспрэчваць цішыню і сум над галавой.

Калі ты проста спіш... Над галавой анёлы
схіліліся, нібы зафіксаваць палёт
душы, у ёй спакой шагалаўскі і кволых
нябёсаў свет. А ў снах усё наадварот —
ніяк...
Цябе няма... больш усяго на свеце...
боль усяго... Цябе схаваю ў глыбіню,
у сутнасць і у сэнс, як могуць толькі дзеці,
народжаныя, каб аспрэчваць цішыню
жыццём наадварот. Вясна у халаднечу
вярнулася і стала шэранню квітнець,
і шчэрыцца шчанём на гэтую нявечнасць,
ёй страшна, калі там — нічога...
толькі смерць.

## Тварцу

Ты прыдумаў Сусвет.
У Сусвеце вакантныя месцы
на жыццё і на смерць,
усё астатняе — не ў цане.
Ты ў нейкай сваёй
прынцыповасці бесцялеснай
ўзяў — і аднойчы
прыдумаў мяне.
І цяпер я жыву,
і цяпер мне паветра хапае
дыхаць і задыхацца
на гэтае неба ў хмель.
Тут усе мы паціху
адно аднаго забіваем,
і ў гэтым таксама
падобныя на Цябе.
Вокісь сонца з паветрам —
па самых прыблізных падліках
хутка лета.
Мая адзінота — твой эксклюзіў.
Лёгка жыць у мінулым
часе і прамінулых ліках...
Як наяўнасць таго,
што Ты некалі ўсё ж такі быў.
Засталіся ўспаміны
і сціснутыя аскарбінкі
вершаў.

горка-салодка-кіслыя пад языком.
*Я* трымаю сябе
ў Сусвеце, нібыта травінку,
проста ўверх, у нябёсы,
у сэрца Тваё вастрыём...
І сыходжу ціхенька
за межы ўласнага ценю,
вінавата, нібы
захмялелы, запознены госць...
Мамін крыжык
і малітоўнік у маёй кішэні —
як наяўнасць таго,
што Ты недзе ўсё ж такі ёсць.

# Вечар на Вісле

Вісла навісла над Віслай —
субліматцыя неба.
Выйсце
недзе за небакраем.
Цячэннем майго дыхання зносіць
аблокі-крыгі
ў горад зімовай адлігі.
Мой горад не мае логікі,
проста падобны да могілак
на Радаўніцу — мёртвы, святочныя
нацюрморты
і вуліцы-небыліцы…
Мой горад — мая бальніца
псіхічнахворых.
Я німфа,
і не хачу ў рыфму
ці ў рытм, заўжды асцярожна
на ноч замыкаю кожны
пражыты дзень…
зрэшты
ўсе мы — маленькія рэшткі
Яго.
Касцельныя фрэскі
замуравалі палескіх
німф, адчуваю нібы,
у форме сваіх выгібаў,

крыжы распінаюць іх душы...
Млявы і раўнадушны
тут Бог.

* * *

Прарастае зернейка пяшчоты.
Выпраменьвае бутоны-пупышкі.
Скручвае пальцы ў экстазе.
Выхоплівае зоркі з неба.
Пакідае млечныя сцежкі
на жываце-небасхіле.

* * *

Аднойчы зможаш змірыцца
з тым, што ў сэрцы сэрца
няма. Навучыся маліцца
куту і жыць па інерцыі
проста і дасканала,
на некалькі слоў, на спазмы мовы.
Цябе не стала
у гэтым сусветным маразме рэчаў.
Аскепкі думак перабірапь-калечыць...
Божа, няўжо Ты прыдумаў
гэту скразную пустэчу?

* * *

Форма душы абрастаецца
падаткамі і вэксалямі.
Падвіды любові ствараюцца
канчаткамі і флексіямі.
У клетцы тваёй абясточылі
пачуцці...
Пацешная —
лезеш на сцены — хочацца
грэшнага!!!

* * *

*Я* тваёй паэзіі жрыца,
ўсіх нязбыўных мар і надзей.
Мне прасцей на сябе забыцца,
і не помніць сябе прасцей,
і паверыць у словаў россып,
і ступаць па небе,
                                        ў хадзе
гэтай лёгкай цярновы поступ.
*Я* іду, куды рыфма вядзе.

* * *

Калі я была пушастай і белай,
і ўвесь свет быў белым,
і ўсе людзі,..
мой канкрэтна-вузкі сэнс
змяшчаўся ў тваім існаванні.

Па кутах нашай памяці
раскіданыя фотаздымкі
прышчаватых усмешак,
школьныя сшыткі і банцікі,
нірвана сямейных святаў...

Я болей не плачу і не смяюся
(што адно і тое ж),
балансую над абрывам,
зрываюся ў істэрыю
і пасля прыбіта жыву.
І больш мой сэнс
                не змяшчаецца ў тваім.
І больш-менш
                не атрымліваецца быць...
Я сяджу на ланцугу ўспамінаў.
Мама, тут у кожнага свой ланцуг.

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне
**ДАШЫНА** Ярына
**(ДАШЫНА** Ірына Іванаўна**)**
**ГРАФІЦІ НА СЭРЦЫ**
Вершы
**Рэдактар** *М.Н. Мінзер*
**Мастак** *А.І. Тадорскі*
**Камп'ютэрная вёрстка** *Л. Н. Касцюкевіч*
**Карэктар** *М.І. Гусева*
Падпісана ў друк 14.12.07 Фармаг 70х90, Папера афсетная.
Гарнітура Times. Афсетны друк.
Ум. друк арк 4.68 Ул. выд арк 2,54 Тыраж 1200 экз. Зак. № 2224.
Надрукавана ў друкарні РУП "Прамдрук"
ЛП 02330/0148775 от 30.04.2004
220049, Мінск, вул. Чарняхоўскага, 3
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Литература и Искусство»
ЛИ 02330/0056810 ад 02.03.2004 г.
220034, г.Мінск, вул. Захарава, 19.